 

# ПАВЕТ СПЯВАЕ І ТАНЦУЕ



Найбольш расчуліла ўсіх выступленне танцавальнай групы старэйшых з вёскі Дабрывода.

У Гайнаўцы адбыўся агляд мастацкай самадзейнасці, арганізаваны з мэтай вылучэння калектываў на II ваяводскі агляд II агульнапольскага конкурсу капел, спевакоў, народных танцораў і г. д.

Журы мела не лёгкую задачу — трэба было выявіць сапраўды найлепшыя калектывы на II ваяводскі агляд. А рэпертуар прадстаўленых калектываў быў надзвычай багаты.

Журы вырашыла паслаць на ваяводскі агляд наступныя калектывы:

1. Джазавы аркестр з Драўляных закладаў Лясной прамысловасці ў Гайнаўцы.
2. Танцавальны калектыў з Кленік.
3. Змешаны хор з Кленік.
4. Танцавальны калектыў з ЗСДД.

На ваяводскі агляд паедуць найлепшыя. Але гэта не значыць, што астатнія калектывы былі слабыя. Таму Аддзел культуры ўзнагародзіў гэтыя калектывы грашовымі прэміямі, прызначанымі на закупку касцюмаў.



Танцавальная група з Чыжоў.



Хор з вёскі Кленікі.

Некалькі слоў аб артыстычным руху ў павеце.

На тэрыторыі павета ў сучасны момант існуе 20 вясковых калектываў і 4 гарадскія з Гайнаўкі. Пераважаюць харавыя калектывы. Усе калектывы наракаюць на брак беларускага рэпертуару. Большасць мастацкіх калектываў неаднаразова выступала не толькі ў сваіх вёсках, але і для насельніцтва навакольных вёсак.

Найбольш актыўнымі з'яўляюцца калектывы з вёсак: Ласінка, Кленікі, Кузава, Дабрывода, Чыжы, Кляшчэлі, Нарва, Навасады. У гэтым вялікая заслуга настаўнікаў. Практыка паказала, што найлепшых вынікаў дасягаюць там, дзе настаўнікі супрацоўнічаюць з моладдзю.

Найбольш актыўнымі ў гэтым напрамку настаўнікамі з'яўляюцца: Генрыка Кульчакевіч з Чыжоў, Аляксандр Закройшчык з Кленік, Юрый Панько з Трасцянкі і Тамара Бусняк з Навасад.

У некаторых выпадках брак фаховага інструктажу (ці з боку настаўнікаў, ці Аддзела БГКТ) прывёў да таго, што многа калектываў распалася, напрыклад, у вёсках Вітава, Нараўка, Скупава і г. д.

Асабліва крыўдна за мастацкі калектыў са Скупава. Ён быў адным з найлепшых на мінулагоднім аглядзе, а ў гэтым годзе не існуе. А ўся бяда ў тым, што настаўніца са Скупава гр. Лапінская, якая многа зрабіла для таго, каб зрабіць калектыў моцным, у гэтым годзе адыйшла ад гэтай працы. Вельмі шкада.

Невядома чаму не ўзялі ўдзелу ў аглядзе калектывы вёсак Навасады і Кузава.

На заканчэнне хочацца пажадаць вялікіх поспехаў калектывам, якія будуць выступаць на ваяводскім аглядзе мастацкай самадзейнасці.

М. ТАРАСЕВІЧ
старшыня ПА БГКТ
у Гайнаўцы.

# СУПРАСЛІ

камі ў іх барацьбе супроць фабрыкантаў, то цяпер — у чацвёртай забастоўцы — яны выступілі супроць фашысцкага ўрада, белага тэрору, паліцыі.

Калі ўспыхнула ўсеагульная забастоўка ў Беластоку, рабочым стала вядома, што адзін з цяжка раненых супрасльскіх тэкстыльшчыкаў памёр. Яны сабраліся каля шпіталя і запатрабавалі выдаць ім для пахавання труп маладога рабочага, забітага паліцыяй. Фашысцкія ж улады, баючыся рэвалюцыйных выступленняў мас, ноччу, употай вывезлі труп. Рабочыя абурыліся яшчэ больш. Пачалі раздавацца лозунгі: «Далоў крывавых забойцаў!», «Далоў паліцыю!», «Далоў белы тэрор!», «Далоў фашызм!». Прыбыла конная паліцыя. Аднаго паліцэйскага збілі, астатнім удалося скрыцца. Камуністы і камсамольцы прапанавалі бастуючым сабрацца на плошчы Выгода і вырашыць пытанне аб пахаванні юнакоў, забітых у Супраслі. Хутка сюды прыйшло 2.000 рабочых Беластока. З Васількова прыбыло 600 чалавек з чырвонымі сцягамі, перавітымі чорнымі стужкамі. Калі плошча запоўнілася народам, камсамольцы — салдаты 42 палка — выпусцілі голуба, які быў перавязан чырвонай стужкай з лозунгамі. Гэтым яны выказалі сваю салідарнасць з бастуючымі. Рабочыя пастроіліся ў калоны і з разгорнутымі чырвонымі сцягамі, на якіх былі лозунгі: «Далоў белы тэрор!», «Далоў фашызм!», арганізавана накіраваліся ў Супрасль. Уперадзе ішлі камуністы і камсамольцы. Па дарозе дэманстранты спявалі рэвалюцыйныя песні. На пахаванне сабралося больш чым 5.000 чалавек. Прыйшлі рабочыя Беластока, Васількова, Міхалова, Гарадка, Пяшчанік; сабраліся жыхары Супрасля і сяляне навакольных вёсак. На пахаванне сваіх загінуўшых таварышаў з'явіліся і некаторыя члены арганізацыі «Стралец». Яны тут жа перайшлі на бок змагаючагася пралетарыяту, скінуўшы ваенную стралецкую форму.

Пахаванне закончылася спяваннем «Пахавальнага марша» і «Інтэрнацыянала» і заклікамі да барацьбы з фашызмам.

Калі дэманстрацыя вярталася з Супрасля, за ёй на аўтамашыне ехаў кіраўнік беластоцкай ахранкі Высакінскі. Рабочыя закідалі яго каменнямі.

Пасля ўсеагульнай забастоўкі і пахавання загінуўшых рабочыя арганізавалі на фабрыках барацьбу супраць паліцыі. Яны патрабавалі выдалення паліцэйскіх агентаў з прадпрыемстваў. У Супраслі на фабрыцы Цытрона рабочыя збілі двух тайных агентаў паліцыі. Крывавыя падзеі ў Супраслі адкрылі вочы стральцам на жорсткую рэчаіснасць. Многія з іх канчаткова парвалі са сваёй арганізацыяй і па парадзе камсамольцаў звярнуліся з адкрытым пісьмом да працоўнай моладзі і да ўсіх таварышаў, якія яшчэ знаходзяцца ў «Стральцы», у саюзе рэзервістаў, у гуртках ваеннай падрыхтоўкі:

«Пакідайце рады сваіх арганізацый. Станавіцеся ў рады тых, хто змагаецца за хлеб, работу, за свае чалавечыя правы».

Падзеі ў Супраслі камсамол Заходняй Беларусі выкарыстаў для барацьбы супраць «Стральца». У адозвах, нелегальных камсамольскіх газетах, на сходах, у гутарках маладым рабочым і сялянам, якія знаходзіліся ў гэтай арганізацыі, растлумачвалася, што іх, як і ўсю працоўную моладзь, душаць прадпрыемцы, а іх бацькоў і братоў грабяць секвестратары, арыштоўвае паліцыя і кідае ў турмы.

У выніку камсамольскай агітацыі распаўся стралецкі атрад у вёсцы Лебядзева (Брэстчына) і пяць на Беласточчыне. Масава выходзіла са «Стральца» моладзь на Гродзеншчыне, у Маладзечне.

## КУДЫ ІСЦІ ВУЧЫЦЦА?

### МІХАЛОВА АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНЫ ЛІЦЭЙ

Заснаваны пасля вызвалення нашай краіны ад фашысцкіх акупантаў, Агульнаадукацыйны ліцэй у Міхалове сёння з'яўляецца цэнтрам сярэдняй адукацыі моладзі Беластоцкага павета.

У сучасны момант шматлікія выпускнікі гэтага ліцэя закончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы і працуюць у розных галінах гаспадаркі нашай краіны, як інжынеры-электрыкі, інжынеры будовы параходаў, настаўнікі, лекары і інш.

У ліцэі для дзяцей беларусаў выкладаецца беларуская мова як прадмет ад 2-ога класа пачатковай школы.

Ліцэй змяшчаецца ў прыгожым новым школьным будынку. Шматлікія навуковыя кабінеты, светлыя класныя залы, багатая бібліятэка — гэта вучням добрыя ўмовы для вучобы.

Для моладзі з па-за Міхалова ёсць магчымасць атрымаць кватэру ў інтэрнаце ліцэя.

### ШКОЛА МЕХАНІЗАЦЫІ РАЛЬНІЦТВА

Высокакваліфікаваных слесараў і механікаў сельскагаспадарчых машын рыхтуе Школа механізацыі ральніцтва ў Міхалове Беластоцкага павета. Адрас школы:

Michałowo ul. Leśna 1 pow. Białystok

У школу могуць паступаць хлопцы і дзяўчаты, якія маюць закончаны 7 клас падставовай школы.

Для пазамясцовай моладзі пры школе існуе інтэрнат. Вучні атрымоўваюць стыпендыю ў залежнасці ад поспехаў у вучобе і матэрыяльнага стану бацькоў.

Выпускнікі 7-га класа, павялічвайце рады механізатараў нашага ральніцтва!

Пастунайце ў Школу механізацыі ральніцтва ў Міхалове! (м. г.)



 



# Арцельшчыкі

Звычайным хлопцам быў Сенька, пакуль не ўступіў у арцель. Потым ужо ў Сенькі паявіліся новыя боты, выдатны гармонік, веласіпед, ды закруціўся жывы грош у кішэні.

Працуючы ў арцелі і больш за ўсё на сонцы, у Сенькі паявілася ў тры разы больш вяснушак, але дзяўчаты гэтага не заўважалі і ліплі да яго, як мухі на мёд. Магчыма, боты ім падабаліся, а можа гармонік, ды да таго Сенька заўсёды меў поўныя кішэні семачак, а часам і ледзянцы там з'яўляліся.

І як хлопцы ні стараліся адцягнуць дзяўчат ад Сенькавых кішэняў, нічога з гэтага не выходзіла: Сенька ўсё хадзіў па вёсцы козырам, як быццам бы яму мора па калена.

Нават Мікола, які вярнуўся з войска з дзвюма нашыўкамі, павінен быў уступіць дарогу Сеньку, і ўсё з-за гэтай арцелі.

Вядомая справа — грошы псуюць чалавека. Бывае вось, жыве сабе чалавек на свеце, у царкву ходзіць, з суседзямі вітаецца — і раптам з'яўляюцца ў яго грошы. Ну, і пачынаюць тады з гэтага чалавека вылазіць якасці, аб якіх ён і сам не падазраваў.

Так стала і з Сенькам: перастаў ён у гаспадарцы бацьку дапамагаць; як вернецца з арцелі, на прызбе сядзе, папяроску да губоў прыклеіць, ды з насмешкаю прыглядаецца, як іншыя працуюць.

Невядома, чым бы справа скончылася, каб Сенькава арцель не лопнула, як мыльны пузыр, а прычынай гэтаму быў кірмаш, дзе Сеньку прылапалі з махоркай.

Ад Сенькі потым дабраліся да астатніх членаў нелегальнай арцелі, якія вырошчвалі махорку на прысядзібных участках. А гэтую махорку, нарэзаную па-фабрычнаму, і перадавалі Сеньку для продажу.

Спірта-гарэлачныя, махорачныя і іншыя інтарэсы многіх адурманьваюць, як опіум, але поспех ад гэтага часовы, бо потым прыходзіцца спавядацца перад следчымі.

Цяпер ад Сенькавых семачак толькі смецце засталося, ды і тое вецер разносіць, як дрэнную славу.

*Дзядзька Лявонь*

# Якія самі, такія і сані

Некалькі тыдняў таму назад тэлевізія ў Гесіі перадала рэпартаж пад загалоўкам «Глянем на нашу моладзь» (гаворыцца, зразумела, аб заходнегерманскай моладзі).

Рэпартаж заключаўся, між іншым, у тым, што вучням заходнегерманскіх школ ва ўзросце 15—17 год задавалі пытанне: «Што вы ведаеце аб Гітлеры?»

Якія ж былі адказы? На дзесяць вучняў дзевяць або нічога не ведала, або лічыла, што фюрэр рабіў больш добрых спраў, чым дрэнных. Здараліся і такія адказы: «Гітлер? — будаваў шасейныя дарогі, клапаціўся аб матках і дзецях, ліквідаваў беспрацоўе, збіраў бяздомную моладзь, арганізоўваў экскурсіі параходам для рабочых».

У сувязі з гэтай перадачай гамбургская газета «Die Welt» пісала: «Нядобра робіцца ў нямецкай школе».

Нам здаецца, што нядобрае робіцца не толькі ў заходнегерманскай школе. І калі? — 14 год пасля вайны.

У. Л




## Нашы дзеці

### РАЗУМНЫ ВУЧАНЬ

На ўроку рэлігіі святар пытае:

— За што Адам і Ева былі выгнаны з раю?

— За тое, што яны да Бога ў яблыкі лазілі — адказвае вучань.

Прыслаў

Лёня СІДАРУК
Сакі
Бельскі павет

### МАЛАДЫ МАТЭМАТЫК

— Скажы, Паўлік: тата, мама і ты, колькі разам асоб?

— Тры.

— А як прыдуць яшчэ дзед і бабка?

— То будзе... будзе... пяць.

— Выдатна!

— А як прыдуць яшчэ цёця Тэкля, Люба і дзядзька?

—То будзе шум і непарадак.

Я. Г.

### ПРЫЕДЗЕ ЦЁТКА

Маці гаворыць сыну, які мае пяць гадоў і ніколі не хоча мыцца:

— Знаеш што, сыночку, — трэба, каб ты сёння абавязкова вымыўся, бо заўтра свята, і прыедзе да нас цётка з Варшавы.

— Ай! Мамачка, а як яна не прыедзе, а я вымыюся, то што, буду хадзіць чысты?

У. Г.

*

— Тата, сёння ў школе гаварылі, што ў некаторых афрыканскіх плямёнаў прадаюць сваіх дзяцей. Ты ніколі мяне не прадаў бы, праўда?

— Так, але часам, калі ты непаслухмяны, то я цябе і бясплатна аддаў бы.

* * *

Пеця вярнуўся дахаты і пахваліўся бацьку:

— Тата, я атрымаў пяцёрку па матэматыцы.

— О, гэта вельмі мяне цешыць! Скажы, як гэта было?

— Знаеш, настаўнік мяне пытаў пяць разоў і кожны раз ставіў адзінку, а пяць адзінак — гэта ж пяцёрка!

* * *

— Колькі табе трэба здачы? — пытае крамар Янку.

— Не ведаю, — адказвае той.

— Як гэта так, ты ходзіш у школу і не ведаеш?

— Так, але цяпер канікулы.

* * *

— Сёння ты напісаў дыктоўку на пяцёрку. Але ўсё ж-такі я заўважыў, што яна напісана дакладна так, як у твайго калегі, з якім ты сядзіш. Што гэта значыць?

— Гэта значыць, што і ён мае пяцёрку.

Л. К.

## Дзеці з ГДР



— Ну і спрытная! Значыцца, як пратрэцца ў яе футра, яна падладзіць яго скуркай сабачкі.

— Бачыў ты багіню перамогі ў Брандэнбургскай Браме? Незвычайная жанчына, правіць чатырма коньмі!

— Фі, мая маці правіць цэлым трамваем.





Без подпісу



## У Ялоўцы

(співаецца на мелодыю «Раскінулась мора шырока»)

Шкілетам памершай жывёлы
Стаіць у Ялоўцы святліца,
Няма ў ёй дзвярэй, ані вокан,
А стрэха — парвана спадніца.

Ляжыць на падлозе каменне
І цэгла з разбуранай печкі.
Сюды на «культурны» занятак
Прыходзяць вяпры і авечкі.

Пра сцены і слоў не хапае,
Каб вершам усе апісаці,
Лахмаццем паперным адзеты —
Аж жудка пра іх ўспамінаці.

Свабодна тут вецер гуляе
Ад радасці дзіка рагоча,
То свісне у раме ваконнай,
То дошкаю глуха ламоча.

Мо' грохат вас гэты разбудзіць.
Дзяўчаты і хлопцы з Ялоўкі,
Зрабіце парадак ў святліцы
І дайце людзям пастаноўкі.

ЯНКА БЕРАЗАВЕЦ

## РАЗВЯЗКА ЛІТАРАТУРНАГА КОНКУРСА

Чытачы прыслалі 85 адказаў, у тым ліку 61 правільны. Першыя тры ўзнагароды вылясавалі:

І ўзнагарода — фотаапарат — Ніна Кіцаль, Чыжыкі, Гайнаўскі павет.

ІІ узнагарода — камплект да пісання — Аляксандр Казберук, Міхалова, Беластоцкі павет,

ІІІ узнагарода — бібліятэчка — Галіна Красоўская, Сувалкі.

Кніжныя ўзнагароды вылясавалі: 1. Марыя Грыгарук, Ляды, Гайнаўскі павет, 2. Коля Карчэўскі, Кожына, Бельскі павет, 3. Віктар Пучынскі, Агульнаадукацыйны ліцэй, Міхалова, Беластоцкі павет, 4. Ольга Кардаш, Эльяшукі, Гайнаўскі павет, 5. Алёна Бароўская, Беласток, 6. Янка Іванюк, Плёскі, Бельскі павет, 7. Міраслава Пецюкевіч, Торунь, 8. Пятро Скепка, Альхоўка, Гайнаўскі павет, 9. Андрэй Мазалеўскі, Хілімоны, Дуброўскі павет, 10. Коля Хіліманюк, Варшава.

Кніжныя ўзнагароды высылам поштай. І і ІІ узнагарода да атрымання ў рэдакцыі.